Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. аг 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|

№. 18 Вільня, Серада, 16-га чэрвеня 1926 г. Год I.

## Вэксалі бяз вартасьці.

Польская нацыянальная лявіца, задаўшыся мэтай „маральнае санацыі“ сваей дзяржавы, зьвярнула ўвагу перадусім на *пытаньне нацыянальнае*, — галоўным чынам на палажэньне найбольш пакрыўджаных *беларусаў і ўкраінцаў*.

Гэта—дужа добра. Але-ж характэрна, што польская нацыянальная лявіца толькі тады бярэцца лячыць застарэлую хваробу, калі... ня мае магчымасьці словы свае перататварыць у дзела! Так і цяпер: найбольш суляць беларусам і ўкраінцам на славах тыя польскія групы, якія маюць найменшы ўплыў на істнуючы ўрад.... Бо-ж пры ўсей „лявіцовасьці“ новастворанага ўраду „маральнае санацыі“ ведама кожнаму, што панад партыямі стаіць воля аднаго чалавека—марш. Пілсудскага, а гэтая воля адсунула ад улады перадусім... пэпэесаў!

Ня менш характэрна і тое, што польская нацыянальная лявіца, якая навет сваім—польскім-жа—працоўным масам не дае і ня суліць нічога, стараецца „адыгрывацца“ перад гэнымі-ж масамі сваім „рэвалюцыянізмам“, паскольку справа йдзе аб інтарэсы чужых для іх „нацыянальных меншасьцяў“. І ўжо гэта адно павінна наперад абясцэніць робленыя нам імі пасулы.

Гэтымі днямі „лявіцовы квартэт“ выступіў з дужа цікаўнымі дэкларацыямі аб сваіх адносінах да беларусаў і ўкраінцаў. Тры партыі, якіх не запрасілі да цяперашняга ўраду: ППС, „Вызваленьне“ і „Сялянская Партыя“ Брыля і Домбскага—прынялі адну супольную рэзалюцыю ў гэтай справе, у якой перадусім заяўляюць, што *„прызнаюць права Украінскага і Беларускага народаў на незалежнасьць“*—наагул, а ў Польшчы—суляць ім *тэрыторыяльную аўтаномію* і розныя палягчэньні, а ў тым ліку.... тасаваньне і да іх польскае канстытуцыі! Чацьверты ўчасьнік „квартэту“, „Партыя Працы“, старшыня якое стаўся галавой сучаснага польскага ўраду, — узяў некалькімі тонамі ніжэй: у дэкларацыі „Партыі Працы“ аб прызнаньні права на незалежнасьць Беларускага і Украінскага народаў гаворыцца ўжо вельмі асьцярожна (дзіва: то-ж за імкненьне да гэтага цяперашні міністар справядлівасьці пан Маковскі ў свой час „закатаў“ у катаргу пасла Барана, які і сяньня сядзіць за кратай, хоць Сойм і ня выдаў яго суду,—а надовячы засуджаны ізноў кс. Гадлеўскі і рэдактар Шыла!). „Партыя Працы“, гаворачы так сама аб аўтаноміі Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны, „гатова да супрацоўніцтва з дэмакратыяй нацыянальных меншасьцяў у розных галінах“, ды верыць у аднаўленьне „фэдэрацыйнае ідэі“, ад якое так рашуча адракаўся на адным з сваіх віленскіх выступленьняў—марш. Пілсудскі!

Каб ацаніць вартасьць тых *палітычных вэксалёў*, якія польская нацыянальная лявіца сяньня падпісывае, даволі паглядзець, як гэныя партыі на дзеле адносіліся і адносяцца да беларусаў і беларускае справы наагул. Перадусім трэба адзначыць, што *ўсе яны, ніхога не выключаючы, зьяўляюцца тварцамі і староньнікамі польскага асадніцтва на землях Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны.* Дык ужо аднаго гэтага было-б даволі... Але варта разглядзець і кожную партыю асобна.

Перадусім—*пэпээсы*. Гэтая-ж партыя ўжо мела ў сваіх руках уладу—у суполцы з эндэкамі і пястоўцамі, і тады неяк зусім ня бачыла таго нацыянальнага ўціску, процi якога цяпер пратэстуе. Наадварот: прадстаўнікі партыі, езьдзючы па Эўропе і падпісываючы рознага роду пратэсты процi „брахлівых напасьцяў“ на польскую палітыку ў адносінах да „нацыянальных меншасьцяў“, сцьвярджалі, што ў Польшчы ніякага ўціску няма і ніколі ня бывала.... Час панаваньня пэпэесаўска-абшарніцкае коаліцыі—гэта-ж найцяжэйшы пэрыяд у жыцьці беларусаў пад Польшчай! І тая самая ППС, якая цяпер аб нашых правох гэтак многа і салодка сьпявае, і па сёньняшні дзень ня спыняе сваей *барацьбы з беларускім адраджэнскім рухам на Палесьсі*, закладаючы па вёсках расейскія школы для палескіх беларусаў, закідываючы літэратурай у расейскай мове і г. д.

Далей—*„Вызваленьне“*. О, ў часе выбараў ў Сойм і Сэнат у 1922 годзе мы ня мелі больш „сардэчных“ прыяцеляў, як „вызваленцы“, але... толькі да таго мамэнту, пакуль яны не апынуліся на пасольскіх крэслах—дзякуючы крывадушна выманеным галасам нашага сялянства. І аслаўленыя „языковыя законы“, зьнішчыўшыя беларускія народныя школы да званьня, апрацаваў—у свой час галава гэтае партыі п. Тугутт (—цяпер ён у Партыі Працы) ў суполцы з найзаядлейшым спаміж эндэкаў Станіславам Грабскім, былым міністрам асьветы ў урадзе пэпэесаўска-эндэцкае коаліцыі.

*„Сялянская Партыя“* толькі-што ствалылася і нічым на дзеле сябе ня выявіла дагэтуль. Ведама толькі, што ў склад яе ўвайшлі.... былыя „вызваленцы“, а адзін з яе павадыроў, пан Домбскі, дзяліў у Рызе Беларусь.

Урэшце—*„Партыя Працы“*. Гэтая ад слоў ужо перайшла да дзела і *распачала супрацоўніцтва.... з Аляксюком*,—тым самым Аляксюком, якога байкатуе ўсё чэснае беларускае грамадзянства і аб маральнасьці якога найлепш ведаюць самі-ж паны пілсудчыкі, „ратаваўшыя“ Аляксюка ў аднэй дужа паскуднай прыгодзе з грашмі Беларускае Вайсковае Камісіі. Вось „партыя маральнага адраджэньня Польшчы“ і пачала сваё „супрацоўніцтва“ з беларусамі, друкуючы стацьці гэнага „прадстаўніка маральнае чыстаты“ ў сваім афіцыяльным органе ў Вільні—„Kurjer Wileński“....

Але найлепшым доказам „шчырасьці“ партыяў польскае нацыянальнае лявіцы зьяўляецца наступнае. Калі гэныя паны прызнаюць нашы незалежніцкія імкненьні, дык з мамэнту такога прызнаньня яны павінны прызнаць несправядлівым, што тысячы беларускіх сялян і работнікаў з паслом Бараном на чале сядзяць за гэныя самыя імкненьні ў польскіх вастрогах. І, значыцца, „Партыя Працы“, лідэр якое, пан Бартэль, зьяўляецца галавой цяперашняга ўраду, першая павінна-б была правясьці *закон аб амністыі для палітычных вязьняў*.

Другое. Калі лявіцовыя партыі „з усей рашучасьцяй асуджаюць палітыку нацыянальнага ўціску, праводжаную мнагакротна — пад уплывам нацыяналізму—дасюляшнімі ўладамі Рэчыпаспалітае“,—дык яны мусілі-б парупіцца аб тое, каб ніводзін з дасюляшніх „крэсавых“ адміністратараў, якія праводзіў гэткую палітыку, не астаўся ні на адзін дзень на сваім месцы. *Зьмена ўсяе „крэсавае“ адміністрацыі*—ад нізу да верху — вось першы крок да аздараўленьня нацыянальнае палітыкі ў Польшчы.

Але *ні аб амністыі, ні аб „ачысткі“ нашае адміністрацыі ніводная з партыяў польскае нацыянальнае лявіцы і не заікнулася....* І гэта—найлепшы паказчык таго, што варты падпісаныя гэнымі партыямі палітычныя вэксалі.

## Дэкларацыі польскае лявіцы.

Падаем тут даслоўны пераклад дэкларацыяў чатырох партыяў польскае нацыянальнае лявіцы ў справе адносінаў да „нацыянальных меншасьцяў“ — перадусім да беларусаў і ўкраінцаў.

Дэкларацыя ППС, „Вызваленьня“ і „Сялянскае Партыі“:

„Польская дэмакратыя, у мысьль сваіх высокіх традыцыяў, прызнае **права на незалежнасьць народаў Украінскага і Беларускага.** У межах-жа Польскае Рэспублікі падпісаныя партыі старацімуцца з усіх сіл, каб унармаваньне нацыянальнае справы адбылося на груньце правядзеньня законаў аб **тэрыторыяльнай аўтаноміі** для зямель Рэчыпаспалітай, заселеных у большасьці Украінцамі і Беларусамі.

„Падпісаныя партыі, асуджаючы з усей рашучасьцяй **палітыку нацыянальнага ўціску**, праводжаную мнагакротна — пад уплывам нацыяналізму—**дасюляшнімі ўладамі Рэчыпаспалітай**, прызнаюць найпільнейшым сваім заданьнем у адносінах да спраў нацыянальных меншасьцяў у Польшчы: а) поўную і радыкальную перамену тасаванае дагэтуль адміністрацыйнае і школьнае палітыкі, б) увядзеньне ў жыцьцё ў поўнай меры загадаў Канстытуцыі, якія гарантуюць правы нацыянальных меншасьцяў у Польшчы.

„Партыі гатовы надалей да супольнае з дэмакратычнымі элемэнтамі нацыянальных меншасьцяў барацьбы процi ўсялякіх выяўленьняў нацыяналізму з аднаго ці другога боку“.

— А вось дэкларацыя Партыі Працы:

„Польская дэмакратыя, у мысль сваіх высокіх традыцыяў, прызнае **права народаў**, якія жывуць у Рэчыпаспалітай, **на свабоднае нацыянальнае разьвіцьцё.** Прыложым такжа ўсе стараньні, каб у руках Рэчыпаспалітай абаперці падставы дзяржаўнае моцы і шчасьця злучаных дзяржаў і народаў на чэсным правядзеньні ў жыцьцё пастановаў Канстытуцыі, забясьпечываючых правы нацыянальных меншасьцяў.

„Будзем змагацца з усялякім нацыянальным уціскам і імкнуцца да таго, каб пры расцьвеце самаўрадаваньня ў-ва ўсіх часьцінах зямлі Рэчыпаспалітай з перавагай беларускага і ўкраінскага насяленьня карысталіся **тэрыторыяльнай аўтаноміяй.**

„Польская дэмакратыя, сьвядомая, што супольная карысьць народаў, засяляючых Рэчпаспалітую, вымагае ад іх супольных высілкаў, гатова да супольнае працы ў розных галінах з дэмакратыяй нацыянальных меншасьцяў і да супольнага змаганьня з усялякімі выяўленьнямі нацыяналістычнае нецярпімасьці аднае і другое стараны.

„Верыма, што толькі на дарозе, значанай супольнымі высілкамі, могуць зыйсьціся і пагадзіцца палітычныя імкненьні Беларусаў і Украінцаў з польскай дзяржаўнай справай, зьдзяйсьняючы гэтак незалежніцкія ідэалы Беларусі і Украіны і **фэдэрацыйную ідэю Польшчы**“.

## Рэжым „індывідуальнага камандаваньня арміяй“—у мірныя часы.

(Новы ліст ваеннага міністра марш. Пілсудскаг а)

На радзе Міністраў разглядаўся ліст ваеннага міністра марш. Пілсудскага да прэм'ера Бартля, у якім марш. Пілсудскі ставіць гэткія варункі прыняцьця ім становішча ваеннага міністра.

Марш. Пілсудскі трэбуе перадусім яснага тлумачэньня арт. 45 Канстытуцыі ў галіне правоў прэзыдэнта на назначэньне міністраў, а перадусім—ваеннага міністра.

Марш. Пілсудскі трэбуе перадусім, каб яму было пакінута—„**індывідуальнае камандаваньне войскам**“, у якое ніхто-б, апрача прэзыдэнта, як Вярхоўнага Галавы аружных сілаў дзяржавы, ня меў права ўмешывацца...

Разьмежаваньне сваіх правоў, як ваеннага міністра і „індывідуальнага камандзіра арміі“, марш. Пілсудскі абяцуе зрабіць у паразуменьні з прэзыдэнтам—у прысутнасьці прэм. Бартля.

Адносіны свае, як ваеннага міністра, да прэм'ера марш. Пілсудскі прапануе рэгуляваць так: у камандаваньне арміяй і ў гаспадарку ў ёй прэм'ер умешывацца ня мае права, але адказнасьць ваеннага міністра перад прэм'ерам будзе загарантавана тым, што марш. Пілсудскі зараз-жа зложыць на рукі прэм'еру—прашэньне аб сваей адстаўцы, якое той можа прыняць у кожны мамэнт, як толькі знойдзе гэта патрэбным (не захоча нясьці адказнасьці за свайго ваеннага міністра)...

Адносіны да Сойму — паказаны ў Канстытуцыі, з чым марш. Пілсудскі згаджаецца. Але перад Сэнатам адказваць ня будзе, бо гэтага закон не вымагае.

Апрача ўсяго гэтага, ваенны міністра трэбуе яшчэ назначэньня асобнага „найвышэйшага афіцэра арміі“, які-б меў на мэце—падгатаваньне арміі на выпадак вайны. З ім разам і будзе згодна працаваць марш. Пілсудскі, як ваенны міністар.

У канцы марш. Пілсудскі трэбуе безадкладна вярнуць законную сілу яго дэкрэту „аб арганізацыі найвышэйшых вайсковых уладаў“, які ён выдаў у 1921 г., калі быў Начальнікам Дзяржавы.

# У Польшчы.

## Марш. Пілсудскі — Старшыня Ваеннай Рады.

Дэкрэтам прэзыдэнта Рэспублікі, змацаваным прэм'ерам, ваенны міністар марш. Пілсудскі назначаны старшынёй Ваеннай Рады. Гэткім чынам ізноў увайшоў у сілу дэкрэт Пілсудскага „аб арганізацыі найвышэйшых вайсковых уладаў“, выданы ім яшчэ ў 1921 г., і ўся армія запраўды перайшла пад — „індывідуальнае камандаваньне“ марш. Пілсудскага. Ці ня гэта й было адзінай мэтай усяго „перавароту“?!

## Пляны зьмены канстытуцыі.

Першым чынам, паводле праекту Макоўскага-Хацінськага—Прэзыдэнт атрымае права роспуску Сойму.

Пасьля Прэзыдэнт мае атрымаць права „вэта“, ці прыпыненьня сілы ўсялякага закону, прынятага Соймам і Сэнатам, калі з ім не згаджаецца думка і воля Галавы Дзяржавы... У гэткім выпадку Прэзыдэнт выдае адозву, ці маніфэст да народу, у якім тлумача матывы сваей нязгоды зацьвярдзіць закон, прыняты Соймам. Калі Сойм і Сэнат і пасьля гэтага ўсё ж такі стаяць на сваім, дык для наданьня сілы закону павінны прыняць яго ўжо значна вялікшай большасьцю галасоў, — напрыклад 2/3.

Далей,—бюджэт мае быць прыняты ў працягу 3—4 месяцаў пасьля падачы яго ў Сойм. Калі за гэты час Сойм ня прыме бюджэту, тады ўрад папросту абвяшчае бюджэт і ўводзіць яго ў жыцьцё сам...

Нарэшце—найцікаўней!—у часе вольных ці нявольных вакацыяў Сойму — прэзыдэнцкі ўрад мае мець права выдаваць „указы“ ці „распараджэньні“, якія маюць сілу законаў... Пасьля, калі зьбярэцца Сойм, ён можа іх або прыняць або адкінуць.

З гэтага ўсяго відаць, што „маральная рэвалюцыя“ ды захапленьне ўлады ў Польшчы „лявіцай“ фактычна выпаўняе тую праграму „манархізацыі прэзыдэнцкай улады“, якую праз увесь час найбольш горача і паступова высоўвалі... абшарніцка-манархічныя партыі і газэты ў Польшчы, якія ў гэтым нейк зусім зышліся з цэзарыстычна-лякайскімі „радыкаламі“ з польскай лявіцай... Бо-ж тое, што прапануюць зрабіць з польскай Канстытуцыяй, ператварае польскі Сойм у былую расейскую сталыпінскую „Дзяржаўную Думу“, ці—аўстрыяцкі даваенны Рэйхсрат. „Законадаўства“ выканаўчай улады — паводле 87 ст. расейскіх „Асноўных Законаў“, ці знамянітай „14 стацьці“ аўстрыяцкай Канстытуцыі — гэта-ж такое даваеннае гнілое стар'ё, якога цяпер ужо няма на цэлым сьвеце. — Няма на ўсім сьвеце і слаўнага права „вэта“, а калі дзе ў старых канстытуцыях і асталося яно, дык асталося толькі мёртвай літарай...

А вось для ратаваньня Польшчы прышлося выкапаць з гістарычнага сьметніку даўно выкінутыя туды поступам дэмакратыі рэчы... Польская буржуазія, каб ратавацца, павінна ўсё больш пазычаць з старога манархічнага арсэналу.

## Польская лявіца—за роспуск Сойму.

Па прапазіцыі „Клюбу Працы“, да якога належыць прэм. Бартэль, 4 клюбы з „блёку польскай лявіцы“ пастанавілі зьвярнуцца да старшыні Сойму, каб склікаў Сойм, але толькі дзеля таго, каб той сам прыняў пастанову аб сваім роспуску.

## Пастановы клюбу „Вызваленьне“.

Цікавыя пастановы зрабіў клюб „Вызваленьне“.

Клюб сцьвярдзіў, што новы „міратворчы“ ўрад перадусім пакінуў на сваіх мясцох усіх скампрамітаваных ды нягодных урадоўцаў, пачынаючы ад ваяводаў і пракурораў, якія, апрача надужыцьцяў, яўна служаць рэакцыйнаму абозу...

Гэта—у галіне „санацыі“ адміністрацыйнай.

У галіне санацыі гаспадарчай таксама — ня зроблена нічога! Ізноў пакліканы людзі, умеючыя толькі—„таптацца на мейсцы“...

Для вёскі і безработных у месьце — таксама нічога.

Для таго, каб дабіцца роспуску Сойму, чаго, відаць, ня хоча ўрад, Вызваленьне прапануе масавую адмову ад мандатаў усей лявіцай, каб гэткім чынам пазбавіць Сойм кворуму і — права й сэнсу яго істнаваньня.

Далей—яшчэ цікаўней.

Клюб Вызваленцаў (былых заўзятых пілсудчыкаў) кляйміць моцнымі славамі „ўзмацаваўшуюся за апошнія часы (пасьля „маральнай рэвалюцыі“?) агітацыю правіцовых і фашыстаўскіх кругоў—проці парлямантарных установаў наагул“... Кляйміць агітацыю — за ўтрыманьне сучаснага Сойму „ў стане доўгатрывалай бясчыннасьці“... Кляйміць „агітацыю, падкопываючую ідэю народнага прадстаўніцтва“. Кляйміць высуваную „кансэрватыўнымі кругамі ідэю „Дзяржаўнай Рады“, якая мае, замест паўнамоцнага Сойму, заканадаўстваваць — па загаду найвышэйшай улады — у краі“.—Бо-ж Сойм—адзіная аддушына, праз якую можа крычаць аб сваіх патрэбах і бедах сялянства...

Найбольш пікантна ў гэтым усім — тое, што ўся гэтая „агітацыя“, усе гэтыя думкі і пляны, у якіх вызваленцы вінавацяць „правіцу“ ды „фашыстаў“ ці „кансэрватараў“, плывуць з думкі і волі аднэй асобы, якую вызваленцы дагэтуль лічылі, а можа і лічаць—сваім правадыром...

## Крывавыя падзеі ў Астроўцу.

Ужо ад тыдня паміж уласьнікамі мэталюргічных заводаў і работнікамі вёўся спор. Работнікі цьвёрда дамагаліся падвышэньня заработнае платы.

Інжэнер Лігенза, кіраўнік заводаў, які вёў перагаворы, трымаў сябе вызываюча і правакацыйна, ды сам ён прычыніўся да таго, што 9-га гэтага месяца работнікі выкінулі яго за браму фабрыкі.

Дырэкцыя паклікала на помач паліцыю, якая і арыштавала некалькі чалавек. На гэтым аднак ня скончылася. 11/VI група работнікаў, узяўшы з сабой штандар праф. саюзу мэталістаў, пайшла пад камісарыят паліцыі — дамагацца звальненьня арыштаваных. Па дарозе каля паходу згуртавалася таўпа ў некалькі тысяч людзей. Перад камісарыятам чакаў ужо на маніфэстантаў кардон паліцыі, які і прывітаў работнікаў стрэламі.

Распачалася запраўдная бітва, бо стралялі з абедзьвюх старон.

Староста зараз-жа вызваў помач з суседніх пастарункаў паліцыі і войска з Сандаміру. Новыя сілы прыбылі вельмі скора на станцыю, і таўпа мусіла зыйсьці з месца бою.

Усе маючыя аружжа работнікі паўцякалі з гораду, у якім паліцыя распачала масавыя арышты.

Забіты 4 работнікі і адзін паліцыянт. Цяжка ранены 9 работнікаў, і адзін паліцыянт, лягчэй — 6 работнікаў, адзін паліцыянт і адзін шпік.

## Забастоўка ў фабрыцы „Pocisk“.

Забастоўка ў фабрыцы „Pocisk“, у Рэмбэртове трывае далей; прылучыліся да яе ўсе работнікі. Спор зачаўся ад таго, што дырэкцыя хацела правясьці новыя рэдукцыі. Работнікі йшлі на згоду, яны гадзіліся на скарочаньне ўсім гадзін працы замест рэдукцыі; аднак уласьнікі адмовіліся. Дырэкцыя зьбірае штрэйкбрэхераў, а забастоўшчыкаў называе „камуністамі“.

Ходзяць чуткі, што філія „Pocisku“ ў Камянцы падтрымае сваіх сяброў забастоўкай і ў Камянцы.

## Забастоўка ў фабрыцы „Płomyk“

У апошнія часы на фабрыцы „Płomyk“ (Варшава) вяліся вострыя спорі паміж уласьнікам і работнікамі. Некалькі дзён назад работнікі зрабілі ў гадзінах працы сходзіны, дзе вынясьлі пастанову дамагацца падвышкі на дарагоўлю. Адміністрацыя паштрафавала іх за гэта і ня прыняла дэлегацыі. У адказ на гэта работнікі кінулі працу і распачалі забастоўку.

## Забастоўка на гарадзкіх работах.

2/VI у Жалібору распачалася забастоўка. Як даносіць „Robotnik“ (№ 160), у выпадку незьліквідаваньня гэтага спору можна дайсьці да агульнай забастоўкі на гарадзкіх работах, якія вядуцца з фундушу барацьбы з безрабоцьцем.

## Спор у пякарнях.

10,VI адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў работнікаў і ўласьнікаў пякарняў у Варшаве ў прысутнасьці інспэктара працы. Уласьнікі ў канцы згадзіліся ўвясьці рэгулямін аб гадзінах працы. Звольненых работнікаў прадстаўнікі ўласьнікаў заявілі гатовасьць прыняць назад з тым, што могуць адмовіць узноў ім працу ў працягу 2-х тыдняў. Справа дамаганьня ўласьнікаў, каб работнікі адмовіліся ад падвышкі на дарагоўлю, ня была абгаворана з прычыны таго, што работніцкія дэлегаты ня мелі на гэта ніякіх паўнамоцтваў. Канфэрэнцыя адложана на наступны тыдзень.

# Клясычны край „рэвалюцыяў“*).

У нашыя часы ўсялякіх пераваротаў і рэвалюцыяў—сацыяльных, маральных, палітычных, — нельга не зьвярнуць увагі на клясычны край гэтых рэвалюцыяў—Партугалію, у якой за апошнія 10 гадоў адбылося найменш 25 рэвалюцыяў!.. Па дзьве дый яшчэ і з паловай рэвалюцыі ў год, дый усе—як мае быць—маральныя і вайсковыя... Затое-ж—ніводнае сацыяльнае! Дык можна сабе прадставіць, як высока стаяць у Партугаліі—мараль ды войска. Гэта-ж, мае паночкі, як кажуць—сусьветны рэкорд!

---

Сьпярша рэвалюцыі ў Партугаліі мелі яшчэ ідэйныя мэты.—Напрыклад, 1 лютага 1908 г. забілі караля Карла разам з наступнікам трону, а ў 1910 г. выгналі з краю караля Мануэля і абвясьцілі Рэспубліку.

Пасьля гэтага—у працягу 5 гадоў—ішла барацьба краёвых рэспубліканцаў з рознымі „Кірыламі“ ды „Нікалаямі“ крэўнякамі выгнанага караля, якія ніяк не маглі пагадзіцца з тым, што іх—„Божай міласьцю каралёў“ ды прыраджоных валадароў краю—пазбавілі іх сьвятых правоў і сьвятой уласнасьці на партугальскую зямлю і на народ, што на ёй жыве...

Але вось ад 1915 году Рэспубліка ўмацоўваецца, улада пераходзіць да парляманту, дзе яна дзеліцца—амаль не на роўныя паловы—між „правіцай“ і „лявіцай“. Праўду кажучы, акуратна высьніць, чым розьніцца лявіца ў Партугаліі ад правіцы,—можа нямення цяжка, як у Польшчы, як гэта слушна ды з такім забойчым гумарам сцьвярдзіў марш. Пілсудскі, пэўна-ж, добра ведаючы сваю „лявіцу“...

---

Мы ня будзем пералічаць усіх гэтых цікавых „рэвалюцыяў“, даўгі сьпісак якіх падае „Варшавянка“. Сцьвердзім толькі, што заўсёды гэроем „перавароту“ зьяўляецца той ці іншы вайсковы рызыкант—маёр, капітан, генарал—арміі ці флёту, які, атрымаўшы зьнекуль значныя грошы, бунтаваў частку войска ці флёту і—ў залежнасьці ад сілы „сваей“ часткі войска, а таксама—і ў залежнасьці ад атрыманай сумы гатоўкі,—або трыумфаваў перамогу, або—цярпеў паражэньне...

У апошнія гады—пасьля 1922—у год адбывалася ўжо найменш па 4 рэвалюцыі... у сёлетнім годзе здарылася ўжо адна рэвалюцыя 2 лютага. А цяпер выбухла толькі йшчэ другая. Вынік яе яшчэ няведамы, але можна спадзявацца яе трыумфу.—Войскі паўстанцаў ідуць на сталіцу, дзе напэўна скінуць прэзыдэнта Таксэйру, на мейсца якога сядзе ізноў яго папярэднік былы прэзыдэнт Альмэйда...

---

Што-ж гэта за „партыі“ кіруюць жыцьцём Партугаліі, ці, правільней, зьяўляюцца відочнымі для ўсіх лялькамі, якімі нявідочна для ўсіх кіруе нейкая мацнейшая рука — праз армію — з-заграніцы?!

У Партугаліі—„зусім як у Англіі“—клясычная парляманцкая „сыстэма дзьвюх партыяў“, якія па чарзе правяць краем. Розьніца толькі ў тым, што зьмяняюцца гэтыя партыі, даходзячы адна па аднэй да ўлады,—ня шляхам выбараў, як усюды на сьвеце, але,—як сказана, шляхам „ваенна-маральных рэвалюцыяў“, ці прасьцей: вайсковых пераваротаў. Адна партыя называецца „радыкальнай“, ці „дэмакратычнай“, другая—„нацыянальнай“. Але між імі, далібог-жа, няма найменшае розьніцы, можа навет менш, як у Польшчы між лявіцай і правіцай...

У часе рэвалюцыі, якая вельмі рэдка бывае лішне крывавай, бо людзі там усё вясёлыя ды наагул шкадуюць ліць кроў дарма,—тая партыя, што падымае бунт, абвяшчае сваіх праціўнікаў „зладзеямі“, ловіць іх правадыроў дый так ці інакш—„ліквідуе“ іх... Бамбардуючы сталіцу Лісабон, рэвалюцыянэры таксама шкадуюць пекных гмахаў найхарашэйшага ў сьвеце места. Дык наагул рэвалюцыі адбываюцца — добра, у поўным парадку, па апрацаванаму і звычаем асьвячонаму спосабу, з найменшай шкодай для краю і яго насяленьня... Каждая партыя, пачынаючы рэвалюцыю, абвяшчала праціўнікаў зладзеямі, і робіць гэта з чыстым сумленьнем, бо-ж і ў гэтым няма лішне вялікай розьніцы між абедзьвюма партыямі краю...

---

Якія-ж вынікі гэтых заўсёдных маральна-вайсковых рэвалюцыяў для краю?

Вынікі маральныя, а перадусім—для арміі,—надта вялікія, бо перадусім „маральныя інтарэсы арміі“, якая—ў тэй ці іншай частцы заўсёды аказываецца „звыценскай“, — забясьпечаны навет больш, чым цяпер у Польшчы... Нямення, чым маральныя, забясьпечаны і матэр'яльныя інтарэсы арміі, якая, ведама-ж, як заўсёдная і сталая пераможніца, не дазваляе ўраду, які-б ён ні быў,—ані зьменшыць лічбу войска, ані пэнсіяў вайсковым... Для краю, для яго фінансава-гаспадарчага жыцьця вынікі 25 „маральных“ рэвалюцыяў у працягу 10 гадоў—ня так ужо карысныя. Бо — пры дзіўным багацьці прыроды краю, маючага датаго яшчэ і цудоўныя заморскія калёніі, гандаль краю—у чужых руках, калёніі адбірае патроху кожны, хто мае час і ахвоту, а дзяржаўная валюта ад 1910 году спала штосьці на 3000 працантаў... Дык ня дзіва, што на гэткія драбніцы, як школы, дарогі і т. п., партугальскі скарб, апанаваны арміяй і флётам, ня мае ўжо грошаў...

---

Цяпер, можа, варта пашукаць па-за межамі гэтага шчасьлівага краю—тэй „моцнай рукі“, якая заўсёды кіруе гэтым шчасьцем, трымаючы ў высокім „ваенна-маральным напружаньні“ шляхотную партугальскую армію з яе нямення шляхотнымі, хаця так страшэнна лаючымі ды скідываючымі адзін аднаго,—правадырамі...

---

*) Аўтар гэтае стацьці карыстаўся арт. „Варшавянкі“ № 147 і „карэспанд. з Лісабону“ ў № 124 „Дз. Віл.“.

# Заграніцай.

## Да развалу Лігі Народаў.

Бразыльскі ўрад заявіў аб выхадзе Бразыліі ня толькі з Рады, але і з Лігі Народаў.

Гішпанскі ўрад заявіў аб выхадзе Гішпаніі з Рады Лігі і аб зьняцьці наагул кандыдатуры Гішпаніі на нясталае мейсца ў Радзе.

У кругах Лігі высоўваецца думка аб стварэньні замест аднэй Лігі—аж трох Лігаў, у якіх-бы групаваліся эўрапэйскія, амэрыканскія і азіяцкія дзяржавы. Гэтая думка паказывае перадусім — банкруцтва тэй Лігі, якая істнуе цяпер.

## Адклад камэдыі разбраеньня.

З Жэнэвы пішуць, што на прапазіцыю Англіі справа разбраеньня адложана Радай Лігі на верасень, калі справа гэтая будзе пастаўлена на павестку дня сэсіі Рады і Агульнага Збору Лігі Народаў.

## „Мардабой“ у Лізе Народаў.

У пакоях палацу Лігі Народаў сэкрэтар вэнгерскай рэспубліканскай партыі даў па твару вэнгерскаму прэм‘еру Бэтлену—у нагароду за ўсе тыя паскудзтвы, якія робіць у краі ягоны ўрад. У Лізе гэтае здарэньне зрабіла вялікае парушэньне.

## Барацьба на вуліцах Прагі Чэскай.

11/VI камуністычная партыя Чэхаславаччыны (якая працуе там легальна) арганізавала вялікую дэманстрацыю проці аграрных мытаў. Мыты гэтыя ўвялі чэскія абшарнікі, каб недапусьціўшы правозу сельскіх прадуктаў з заграніцы — падвысіць цэны сваіх тавараў. Дэманстранты прарвалі перад парлямантам паліцэйскі кардон. Паліцыя пачала стральць у таўпу.

У рэзультаце 50 паліцыянтаў ранена, лік ахвяр з другога боку яшчэ ня ведамы. Забіты на месцы адзін работнік.

## Лёйд-Джордж едзе ў ССРР.

На запросіны Чычэрына Лёйд-Джордж, ведамы павадыр англійскіх лібэралаў-радыкалаў, мае ў ліпні выехаць у ССРР.

## Нота англійскага ўраду да Радаў.

Англійскі ўрад выслаў ураду ССРР ноту пратэсту проці дапамогі грашмі, якую ССРР быццам дае бастуючым англійскім вуглякопам.

Прадстаўнік ССРР у Лёндане рашуча запярэчыў гэтаму абвінавачаньню проці Радавага Ураду.

## Плебісцыт у справе адшкадаваньня былым нямецкім каралям.

20-га чэрвеня мае адбыцца ў Нямеччыне ўсенароднае галасаваньне (плебісцыт)—у справе: ці плаціць адшкадаваньне былым нямецкім „валадаром“ за сканфіскаваныя дзяржавай пасьля рэвалюцыі іх маемасьці ці ўзяць іх народу—бяз выкупу.

Манархісты і паўманархісты ў Нямеччыне вельмі трывожацца гэтым галасаваньнем, бо „пробны плебісцыт“ праз дэмакратычныя газэты даў больш 12 мільёнаў галасоў проці ўсялякага „выкупу“. На чале агітацыі „за выкуп“, як ведама, стаў сам прэзыдэнт Гіндэнбург. Правыя газэты агітуюць наагул — за байкот плебісцыту.

У зьвязку з пачаўшайся гарачай барацьбой ў краі навакол гэтага пытаньня, у нямецкім парляманьце адбыліся бурныя сцэны. Урад Маркса рашуча стаў на бок Гіндэнбурга і нямецкай канстытуцыі, якая ахоўвае „сьвятую ўласнасьць“ роўна ўсіх нямецкіх грамадзян, дык і — былых каралёў. Патроху, здаецца, і ўся буржуазная дэмакратыя далучылася ў Рэйхстагу да заявы прэм‘ера. Рэзка пратэставалі толькі — работніцкія партыі.

На наступным паседжаньні Рэйхстаг выразіў ураду даверые — проці галасоў адных камуністаў, пры ўстрыманьні сацыял-дэмакратаў.

## Новы літоўскі габінэт.

Новы літоўскі ўрад створаны Сьляжэвічам, які адначасна ўзяў сабе і партфэль замежных спраў.

## Памёр Чхэідзэ.

У Парыжу памёр Чхэідзэ, былы дэпутат Расейскай Дзяржаўнай Думы, а пасьля рэвалюцыі старшыня рады рабочых і салдацкіх дэпутатаў.



# ХРОНІКА.

**Беларускія эсэры і Паўлюкевіч.** Як даносіць мясцовая прэса, некалькі дзён назад прыехаў з Коўна ў Вільню грам. Мамонька, адзін з правадыроў істнаваўшага некалісь у нас угрупаваньня, называючага сябе „партый бел. сацыял-рэвалюцыянэраў“. Гэтае ўгрупаваньне, як ведама, і на Захадзе і на Усходзе Беларусі зьліквідавала сябе, уважаючы, што новыя варункі вымагаюць іншых палітычных партый. Ухвалам зьезду не падчыніліся, аднак, некалькі чалавек—сяброў „партыі сацыял-рэв.“, якія знаходзяцца за граніцай—у Празе чэскай і Коўне.

Віленскія газэты пішуць, што Мамонька працаваць думае на нашым груньце над аб‘яднаньнем усіх угадовых бел. партыяў. З гэтай мэтай быццам адбыў ён ужо рад сэкрэтных конфэрэнцый з старшынёй дэфэнзыўнай „Часовай Рады“—„дохтарам“ Паўлюкевічам і інш.

Як бачым, весткі радыкальнае беларускае прэсы аб сувязі эсэраўскіх недабіткаў з дэфэнзыўнымі арганізацыямі ў Польшчы знаходзяць новае пацьверджаньне....

**Прыгавар у справе кс. Гадлеўскага.** Вядомы беларусам ксёндз Жодзішскай парафіі — Гадлеўскі ў свой час быў засуджаны першай інстанцыяй на 2 гады крэпасьці. Акт абвінавачаньня закідаў яму „прызыў сялян да бунтаўнічых учынкаў і да адарваньня Зах. Беларусі ад Польшчы“ (Глядзі арт. 130 расейскага карнага кодэксу). Як ведама, бунтарскія ўчынкі кс. Гадлеўскага заключаліся ў тым, што ён перадусім цьвёрда змагаўся за беларускія школы.

12 гэтага месяца яго справа разглядалася ў апэляцыйным судзе ў Вільні, дзе прыгавар першай інстанцыі быў зацьверджаны.

Хмары паліцыянтаў пільна працавалі ў часе судовае расправы пры ўваходзе ў салю. Нюхам чулі яны, хто нёс схованы букет кваток, і ясна ня пускалі яго. Дзякуючы гэтакай мэханіцы, на вялікую радасьць абшарніцкага „Słowa“, да ніякіх маніфэстацый, ды новых „бунтаўнічых учынкаў“ не дайшло.

**Суд над рэдактарам Шылам.** 11-га гэтага месяца ў акружным судзе разглядалася справа рэдактара „Голаса Беларуса“—Мікалая Шылы. Абвінавачаны ён бы за артыкулы, у якіх быццам „прызываў да бунтаўнічых учынкаў насяленьне і да адарваньня Зах. Беларусі ад Польшчы“.

Рэд. Шыла засуджаны на год цяжкага вастрогу і пазбаўленьне грамадзянскіх правоў.

**Суд над Деревяніцкім і сябрамі.** На дзень 22 г. м. вызначаны ў Вільне суд над Деревяніцкім, Патапавам і Цельюкавым, прыналежнасьць якіх да камуністычнай партыі была якабы дэфэнзывай ўстаноўлена.

**Арышты ў праф. саюзе.** Забастоўка Віленскіх шаўцоў трывае і завастраецца з кожным днём. У зьвязку з гэтым паліцыя некалькі дзён назад зрабіла налёт на праф. саюз шаўцоў і арыштавала некалькі правадыраў забастоўкі.

**„Трэба супакаіваць гарачыя галовы“.** Віленскія школьныя ўлады атрымалі з Міністэрства асьветы цыркуляр, які прызывае вучыцялёў да працы над успакаеньнем вучнёўскіх галоў у зьвязку з пераваротам Пілсудскага.

**Арышт пагромшчыкаў.** Некалькі дзён назад паліцыя заўважыла на вуліцах нелегальныя адозвы, прызываючыя ад імя „Расейскай Монархічнай Партыі“ да пагрому жыдоў.

Трох вінавайцаў паліцыі ўдалася знайсьці і араштаваць.

**У справе экзэкуцый.** Дзеля таго, што пры спагоне падаткаў часта здараюцца выпадкі, дзе да аднаго грамадзяніна прыходзіць аж трох сэквэстратараў з „Izby Skarbowy“, „Kasy Chorych“, і „Magistratu“,—Міністэрства Скарбу прыняла пастанову аб тым, хто-ж з іх мае перш права на маемасьць падатніка?

Першае месца належыцца „Izbie Skarbowej“, што-ж да Магістрату і Касы хворых—справа гэта яшчэ ня вырашана.

**Беларускія календары на 1927 год.** Гатуюцца да друку пад рэдакцыяй Янкі Маланкі беларускія календары на 1927 год.

1) адрыўны календар, 2) календар - кніжка, 3) сьценны календар.

Пажадана каб календары вышлі, як мага раней і ў большым ліку ў параўнаньні з мінуўшым годам.

**Афіцыяльны курс грошы на 15 чэрвеня.** Даляр — 9 зл. 98 гр. Залаты рубель — 5 зл. 11 грошы.

15. VI. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 10,18. Чырвонец — 52 зл.

---

Ведама-ж усім, што „заражанай“ крыніцай усялякіх „сацыяльных рэвалюцыяў у сьвеце зьяўляецца **Масква**... За тое неяк ня ўсім ведама, што „чыстай“ і „шляхотнай“ крыніцай, з якой плывуць у сьвет, у тую ці іншую дзяржаву, „рэвалюцыі маральныя“, хаця і робленыя сілай штыхоў, — зьяўляецца старая, добрая, вясёлая **Англія**!

Дык вось і ў Партугаліі—Англія зьяўляецца першым „прыяцелем“ і „дабрадзеем“ краю...
Перадусім Англія купляе ў Партугаліі амаль не манапольна—усё багацьцё краю, яе добрае, слаўнае на ўвесь сьвет віно... Праўда. купляе так, што партугальскія вінаробы нешта ніяк ня могуць вылезьці з кабалы ў англійскіх гандляроў, якія дыктуюць цэны, як ім падабаецца. Ды кожны наш хлебараб ведае, як гэта робіцца, калі ён пазычыць грошы—пад ураджай—ці ў мястэчковага ліхвяра, ці—яшчэ горш—у пана-абшарніка...

Уся прамысловасьць Партугаліі зьвязана з вырабам віна. Дык ясна-ж, што над падаючай — няпэўнай партугальскай валютай, стаіць, як гаспадар-камандзір,—англійскі фунт (англійская манэтная адзінка, роўная 5 далярам), які робіць толькі адно: вызначае сабе свой уласны курс у Партугаліі. Пры гэтым пэўна-ж Англія лічыцца, кажучы далікатна, больш з патрэбамі сваіх купцоў, як з гаспадарчымі патрэбамі Партугаліі... Гэткім чынам, камандуючы на партугальскім рынку англійскі „фунт“ вызначае і цэны на ўсё ў краі, ды гэтак зьяўляецца запраўдным кіраўнікам і палітычнага жыцьця краю, дый — „маральным камандзірам“ яго грамадзянства, яго арміі, —з яе часта зьмяняючыміся „вярхоўнымі правадырамі“...

---

Ясна і тое, што гэтаму пану „фунту“, як толькі яму штосьці не падабаецца ў дзеяльнасьці ўраду, нічога не каштуе выклікаць „рэвалюцыю“, каб скінуць гэты ўрад ды замяніць яго другім, больш паслухмяным. Так яно і робіцца.

„Калі гэты „фунт“ мае нізкі курс, ніхто ў краі ня лае англафільскага ўраду. Ніхто, апрача— нацыяналістаў, якія, маючы поўныя кішані, горда лятуцяць аб тым, каб „скінуць англійскае панаваньне“.

„Калі-ж „фунт“ пачынае лішне падымаць галаву, народ-вінароб пачынае абурацца,—гуртуецца навакол „нацыяналістаў-незалежнікаў“, і—выбухае чарговая—**проціанглійская „рэвалюцыя“**.

Калі рэвалюцыя ўдаецца, тады „фунт“ крыху спадае, за віно плацяць крыху даражэй, — ажыўляецца гаспадарчае жыцьцё краю... Але тады Англія кідае „апазіцыі“ некалькі тысячаў фунтаў, з яе лона зараз-жа ў арміі аб‘яўляецца новы правадыр, і—выбухае новая рэвалюцыя, якая ізноў садзіць на мейсца пакорны англійцам урад“...

---

Але не адно толькі гэтае зьяўляецца прычынай таго, што „шляхотная“ Англія так горача „любіць“ Партугалію, так шчыра „апякуецца“ запраўды-ж запрададзеным ей душой і целам краем. Не адно толькі смашнае віно ірае тут ролю. Справа ў тым, што малая дый нязларная да дзяржаўнай гаспадаркі Партугалія яшчэ неяк утрымала ў сваіх руках вялізарныя калёніі ў Афрыцы ды астравы на акіяне. Вось гэтай **„спадчынай“** па яшчэ жывым сваім прыяцелю, якога Англія эксплёатуе і руйнуе сыстэматычна, каб памёр „на яе кахаючых руках“. — Англія і цікавіцца больш усяго.

У 1914 годзе перад самай вайной — Англія змовілася з Нямеччынай аб падзеле між імі партугальскіх калёніяў у Афрыцы... Але выбухла вайна, дый яшчэ, нажаль, шляхотная Партугалія станула на бок свайго „сталага саюзьніка“ Англіі, —дык і прышлося пакуль-што адмовіцца ад захвату смачнага кавалка...

Дык вось дзеля чаго Англія так шчыра „любіць“ Партугалію і падтрымлівае яе ў стане гаспадарчай „паўруіны“, пільна чакаючы адпаведнага мамэнту, каб налажыць на „спадчыну“ сваю цяжкую ды цэпкую лапу!

# Пісьмы у Рэдацыю.

Нядаўна ксяндзоўская газэта „Biełar. Krynica“ зьмясьціла заметку аб Беларускім Нацыянальным Камітэце, падаўшы ў ёй зусім нязгодныя з праўдай інфармацыі аб Камітэце. Старшыня Камітэту зьвярнуўся да рэдакцыі „Biełar. Krynica“ з пісьмом, у якім прастуе гэныя інфармацыі. Аднак, ня гледзячы на абяцаньне зьмясьціць гэнае пісьмо, ксяндзоўская газэта яго не зьмяшчае вось ужо два тыдні. Дзеля гэтага Старшыня Камітэту грам. Савіцкі пераслаў нам копію свайго пісьма, пасланага ў рэдакцыю „Biełarusk. Krynicy“, з просьбай аб надрукаваньні.—што і робім:

*Паважаны Пане Рэдактар*!

Для ўстанаўленьня праўды і спраставаньня надрукаванай у Вашай газэце ўвагі адносна Беларускага Нацыянальнага Камітэту, прашу зьмясьціць у Вашай газэце наступнае:

Беларускі Нацыянальны Камітэт складаецца з прадстаўнікоў трох беларускіх палітычных партыяў: Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады, Хрысьціянскае Дэмакратыі і Сялянскага Саюзу—па тры чалавекі ад кожнай, а рэшта (15 чалавек) зьяўляюцца прадстаўнікамі апалітычных беларускіх установ, якія ўсе—за выключэньнем аднагс—зьяўляюцца беспартыйнымі

Старшыня Бел. Нац. Камітэту
(—) *Савіцкі*

У заметцы, проці якой пратэстуе старшыня Камітэту, рэдакцыя „Biełaruskaj Krynicy“ пісала, быццам „Камітэт гэты зьяўляецца не беларускім народным Камітэтам, а выключна арганізацыяй беларускай „Грамады“. А перад тым гэная-ж газэта рашуча заяўляла, быццам „Грамада“ — гэта „камуністы“.

Як назваць паступак „этычнае“ ксяндзоўскае газэты,—няхай падумаюць нашы чытачы самі...

